**З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ**

# ЗГОДЗЕ — МІРУ НЕ БЫВАЦЬ

Дзівуеш, што мала згадваю аб жыцці сваім, хаця ад вясны ўжо замужам? Пагляджу часамі на фатаграфію нашу шлюбную, усе такія вясёлыя, усміхаюцца... і мы з Міхасём адзін да другога тулімся...

Пасля вяселля зараз жа каня свайго купіць задумалі, каб з плеч бацькоўскіх зысці. Загроб Міхась тысячы ў жменю, на кірмаш падаўся ды прывёў пад вечар шуструю кабылу. Пашчасліvілася нам, добра цягнула і вытрымалай у працы была.

Жніво настала, зранку да змяркання рук не пакладалі. Непагадзь, ведаеш, дажджамі палі залівала. Ледзь сноп жытнёвы прасох, хапалі на воз яго, у тумно перлі. Наклаў раз Міхасёк збажыны вышэй жэрдкі аж калёсы па восі ў пожню паразлі. Спяшаем, цела ад знямогі млее, а тут хмара ад лесу насоўваецца. Сцябанулі кабылку пугаю, ірванулася яна наперад, але воз ні з месца, бы ўкопаны стаіць. Дрыжыць цэлая, з хрыбта пара коціць. Намучыліся да цямна, пакуль на тасцінец выбраліся. Лівень нахлынуў з грымотамі, ніткі сухой на нас не пакінуў. Ноччу сну не мелі, Міхась нераздзетым драмаў, штаны цёплыя склаўшы, штораз у хлеў хадзіў кабылу даглядаць. На другі дзень ветэрынара клікнулі. Дарэмна. Прапала, бедная.

З таго часу ў свёкра і размовы іншай не стала:

— Па майго каня лапы сунеш!? Свайго на смерць загнаў, сікун!

Пры ворыве Міхась трактар наняў ад гуртка сельскагаспадарчага. Дапільнаваўшы, нат' някепска пааралі. Азіміну сам пасеяў.

Зглеазеўся свёкар, што на старасці год цяжка аднаму сваю частку абрабіць, ды кажа Міхасю:

— Цялушку прадасі, свінча табе адступім. Каня зноў набудзеш... Садавінай патаргуй у дзень вольны, заўсёды крыху грошай узбіраеш.

Ездзіў Міхась на торг яблыкі, слівы прадаваць, бо садок гожы ёсць. Вярнуўся аднойчы на досвітку п'яны - п'янюсенькі. Раве «страданія». Свёкар з-за сцяны крычыць:

— Хату сабе пабудуй, тады гарланіць будзеш, сікун! Многа так зарабіў, што хлябтаць пачынаеш!? Каня табе даваць куды, каб прапіў яшчэ чаго добрага! Ад мяне хвігу свінча дастанеш, во! — грукоча ботамі, абуваецца, кажуха папоцемку шукае, бо конь нявыпражаны на панадворку храпе.

А Міхась, ледзь на нагах трымаючыся, перайшоў да іхняй палавіны, святло запаліў і як выгукне:

— Уставай! Ідзі, гной вазі, каб цябе на той свет вазілі... разам са слівамі тваімі.

Свякруха лямантавала:

— Пашто ж, сынок, на свет нарадзіўся, калі ты ліхім нам удаўся!

— А я не прасіўся ў вас, — гікаючы забубніў.

Спатыкнуўся аб штосьці, перакінуў падстаўку з вазонамі, ломату начоўп на ўсю хату. Відаць, не стрымаўся стары — храснуў яму кулаком у зубы, аж той пад парог пакаціўся. Маці сціхла спалохана. Чую, выхаркаўся, сапе злосна, устае і да бойкі лезе. Ушчапезыліся за грудзі, паваліліся пярэкіддзю па падлозе. Ад страху і жалю плачу, прытаіўшыся пад коўдраю.

Няма ў мяне, дарагая, ужо і швейнай машыны, якую ў пасаг атрымала. Разбілі яе ўшчэнт.

Суседкі шэпчуць мне, што ў радні гэтай адвеку сварацца і згодзе - міру не бываць.

**Адоль КАСТРЫЦА**

# ЛІТАРАТУРНАЕ СЯБРОЎСТВА

6 кастрычніка г. г. у Беластоку адбыўся справаздачна - выбарчы сход Літаратурнага аб'яднання пры Галоўным Праўленні нашага Таварыства. Увечары маладыя паэты выехалі на аўтарскую сустрэчу ў Гарадок (Беластоцкі пав.).

На другі дзень праходзіў творчы семінар, на якім абмяркоўваліся некаторыя апавяданні і вершы пачынаючых аўтараў. Затым адбыліся перавыбары ўлад арганізацыі. Старшынёй праўлення паўторна выбраны Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі).

Назва Літаратурнага аб'яднання зменена на Літаратурна - Мастацкае аб'яднанне «Белавежа».

У Клубе міжнароднай кніжкі і друку ў 18 гадзін пачаўся літаратурны вечар, арганізаваны супольна з беластоцкім літаратурным клубам. Са сваёй творчасцю пазнаёмілі прысутных Тадэуш Сокул, вершы якога ў перакладзе на беларускую мову змяшчаліся на «Літаратурнай старонцы», а таксама Аліцыя Енджэеўская і Збігнеў Слёнчка. З ліку «белавежцаў» выступілі Алесь Барскі, Яша Бурш, Віктар Швед і Янка Чыквін. Перапоўненая любіцелямі паэзіі зала аднеслася з выключнай увагай да кожнага з іх. Сведчыць гэта аб наспеўшай патрэбе пашырэння і паглыблення супрацоўніцтва паміж абодвума творчымі асяроддзямі

**(ся)**



Выступае Алесь Барскі. Фота: Г. Рагазінскі

# Шмат злажылі легенд

Расцягнуўшыся на зялёным прыбрэжным каўры, забыўшыся аб усім на свеце, я ўткнуўся ў кніжку. Раптам у цішыню ліпеньскага дня ўварваліся нейкія шорахі. Я неахвотна падымаю галаву.

Над берагам ракі ўзвышаецца курган, паросшы арэшнікам і івай. Са стромага абрыва пераглядаюцца ў вадзе махнатыя кусты лазняка, а па вяршыне кургана самотна стаяць дзве старыя прыгорбленыя грушы.

Па дарозе, што спускаецца з кургана, паволі набліжаецца да мяне дзядуля з арэшнікавым кійком у руках. Ён затрымліваецца каля мяне, доўга глядзіць сваімі выцвеўшымі шэрымі вачыма, затым пераводзіць позірк на ляжачую збоку кнігу і кінутыя на самапас вудачкі.

— Што, не клюе рыбка? Дрэнны час выбраў ты хлопча. Поўдзень, гарачыня цяпер, і рыбка, самлелая, прытаілася ля берагоў, — гаварыў ён скрыпучым голасам. — Горача, сынок, ды ісці цяжка, гады не тыя, дай ка, браток, я адпачну каля цябе.

Мой субяседнік, пакрэктваючы, прымасціўся ля мяне. Ён зажмурыў вочы, прыкрыўшы іх далонню, затым разгледзеўся моўчкі вакол і зноў перавёў позірк на адкінутую кніжку. Яна, відаць, цікавіла яго.

— Пра што, сынок, пішуць у гэтай кнізе? — спытаў ён, пераводзячы позірк на мяне.

— Аб жыцці і падзеях у даўнія часы, аб барацьбе са шведамі.

Стары заметна ажывіўся. Ён нахіліўся і ўзяў кніжку ў рукі, з цікавасцю яе разглядаючы. «Патоп» — прасілабізаваў ён.

— А ці тут пішуць пра вось гэтыя вёскі, якія раскінуліся навокал, вунь аб мястэчку Нараў, ды і пра гэты курган, што перад намі.

— Не, нічога аб гэтым няма, — адказаў я.

Словы старога мяне зацікавілі.

Я яшчэ раней чуў аб кургане самыя фантастычныя гісторыі.

— А ці тут адбываліся якія - небудзь цікавыя падзеі? — спытаў я, стараючыся ўцягнуць дзядулю ў размову.

— Го, го, — ажывіўся дзядуля, — аб гэтым можна напісаць не адну цікавую кніжку.

Дзядуля ўзяў працягнутую мной сігарэту, недаверліва пакруціў яе ў руках, затым прыткнуў да працягнутай запалкі і задыміў.

— Даўно гэта было. Мне таксама расказвалі аб гэтым старэйшыя, калі я быў яшчэ юнаком, а яны таксама ведалі аб гэтым ад бацькоў і дзядоў. У даўнія часы мястэчка Нараў было вялікім горадам. Багаты быў гэта горад. А над усім горадам, на кургане, узвышаўся велізарны палац з тоўстымі каменнымі сценамі, у якім жыў уладар гэтых аколіц. Не прыгажосцю сваіх харомаў і багаццем славіўся багаты магнат. Дачка - прыгажуня была красой яго замка. Шмат магнацкіх сыноў абівала парогі палаца, імкнучыся атрымаць у жоны багатую прыгажуню. Аднак ні адзін з іх не змог запаліць сэрца прыгожай магнаткі. Да белакурага Янука, сына лясніка, імкнуліся яе думкі.

Аднак не раўня бедны сын лясніка багатай шляхцянцы. Магнат загарэўся страшным гневам, калі даведаўся аб захапленнях дачкі. Забараніў ёй пад пагрозай кары сустракацца з маладым ляснікам. Але не мог забараніць біцца маладому дзявочаму сэрцу. Маладыя не перасталі сустракацца. Данеслі магнату аб гэтым. Лютым гневам загарэлася яго злое сэрца. Загадаў ён слугам неадкладна расправіцца з маладым ляснікам, а на непаслухмяную дачку кінуў страшэннае праклянцце. Зашумеў ставяковы бор, закалыхалася бурная рака, заліваючы хвалямі

(Працяг на стар. 4)

# У беластоцкім падполлі

У 1936 годзе брыгада, у якой працаваў Піліп Кізевіч, капала побач тратуара роў для вадаправоду на вуліцы Міцкевіча. Адбываліся работы якраз насупраць акруговага суда (цяпер знаходзіцца ў гэтым будынку № 5 Ваяводская Рада).

Аднойчы ішоў у суд намеснік начальніка ваяводскай бяспекі Высакінскі, а разам з ім некалькі дэфензіўшчыкаў. Каля драўлянай кладкі, перакінутай над равом, рыўся Бароўскі.

— Хляпнеш іх! — Піліп вымоўна падмаргнуў яму.

— Будзе, — Бароўскі паволі выкідаў рыдлёўкаю гразь, якая расплывалася вялікімі лужынамі.

Месца нізкае, вада плюскаціць пад нагамі. Кізевіч пільна даўбе кілем мокрую гліну. Раптам чуе:

— Ты, сукінсын! Каб цябе зямля не насіла...

Высакінскі і яго памагатыя стаяць над ровам запэцканыя балотам ад галавы да ног. Беласнежнымі хустачкамі выціраюць твары і злосна клянуць.

— Аяй, што ж гэта я нарабіў, — Бароўскі прыкінуўся перапалоханым, карабкаецца наверх. — Зараз вас ачышчу, — працягвае брудныя, палопаўшыя ад цяжкай працы рукі.

— Пайшоў вон, сволач! — бушуе Высакінскі.

Бароўскі скача назад у роў, ва ўсе бакі ляцяць брудныя пырскі. Услед пасыпалася яшчэ страшнейшая лаянка.

Урэшце сціхлі, пайшлі. Каля Піліпа збіраюцца рабочыя, ідзе Бароўскі. Доўга рагочуць.

— Але нешта многа іх?

— Мабыць, палітычны суд?

— Напэўна, так. Бачыў, як ад вуліцы Свентаянскай (цяпер Навоткі) два разы ўязджала на панадворак суда турэмная карэтка.

## ВОН!

— Высакінскі, замест рыхтавацца да працэсу, чысціць касцюм... Ха-ха, ха-ха...

Пасля абеду паявіўся паліцыянт.

— Ці пан Кізевіч?

— Кізевіч.

— Прашу са мною.

— Ужо? Нават не памыўшыся?

— Маўчаць!

— Хлопцы, папільнуйце лом і рыдлёўку, — папрасіў знаёмых.

Уваходзяць на дзядзінец палаца Браніцкіх, у якім знаходзіўся тады ваяводскі самаўрад — «ваяводства».

— Не пайду ў такім забруджаным адзенні! — пратэстуе Піліп.

— Вы арыштаваны. Марш! — паліцыянт ідзе ззаду.

Уваходзяць у вестыбюль, падымаюцца на паверх. Па камфартабельных паркетах, дыванах і ўзорыстых ходніках. Шлёп, шлёп... Ад гумовых ботаў і прамочанай курткі кавалкамі адвальваецца гразь, расцякаецца.

— Божа, ты бачыш і не грыміш! — стары прыбіральшчык заламаў рукі, быццам да малітвы, і кляў.

Затрымаліся перад дзвярыма кабінета Высакінскага. Паліцай далікатна пастукаў.

— Прывёў, пане начальнік! — далажыў.

— Увайдзіце! — Высакінскі ўжо ў другім касцюме. — Прашу, сядайце.

Кізевіч глянуў на плюшовы, гнуты фатэль.

— Не сяду. Не маю смеласці!

— Раз сказаў табе, халера... Сядай!!!

Сеў. Павярнуўся пару разоў. Адчуваў, як бульгаціць пад ім гразь, сцякае па ножках на кілім.

— Твая работа!... — Высакінскі не мог схапіць духу, — ...замазалі нас зямлёю, бы чарцей!.. Га?!

— Што вы, пан начальнік? Я працаваў далёка наперадзе, нічога не бачыў, — Піліпа ашарашыла нечаканая думка: «Праз акно з верхняга паверху відаць бачыў, як мы сабраўшыся смяяліся... Напэўна».

— Вы заўсёды нічога не бачыце ды не ведаеце! Аб гэтым таксама нічога не ведаеце, праўда? — з зацятай усмешкай на твары паказаў беларускую легальную кніжку «Гадоўля хмелю», у сярэдзіне якой была ўшпілена прапагандовая брашура ЦК КПЗБ.

— Не разумею, чаго ад мяне хочаце?

— Вон, — раптам ускіпеў. — Вон, вон!

Кізевіч зыходзіў уніз.

(Працяг на стар. 7)

# На ўзроўні сваіх абавязкаў

У гэтым артыкуле, на прыкладзе грамады Юшкаў Груд (Беластоцкі павет) мы пакажам некалькі спраў, занядбаных амаль ва ўсіх паветах. Нядаўна ГС дастаўляў сялянам вапну. Прыедуць самаходы да данай вёскі, высыплюць на вуліцы 8—10 тон вапны і паедуць. А тое, што праз вуліцу нельга праехаць, што развявае вапну вецер, што падае дождж і нішчыць вапну, ГС-у галава не баліць. Так не па-гаспадарску была вывалена вапна ў Кухмах, Юшкавым Грудзе, Аднозе і Ціванюках. А ў Боўтрыках не было прывезена нават належнай колькасці. Грамадскі камітэт партыі ў Юшкавым Грудзе адразу зарэагаваў на такую безгаспадарнасць ГС-у. Вынікам інтэрвенцыі было тое, што ГС стаў паведамляць вёску, калі туды будзе давозіцца вапна, якую скідалі пасля не на вуліцы, але там, дзе жадалі гаспадары.

Наступная справа. Яшчэ ў час выбарчай кампаніі жыхары Бандароў выступілі з прапановай арганізаваць вясковую краму. Справа ў тым, што найбліжэйшая крама знаходзілася ў адлегласці 4 км.

Вясковая крама ў Бандарах арганізавалася толькі тады, калі грамадскі камітэт партыі заняўся гэтай справай.

З ініцыятывы членаў КГ у Рыбаках партыйная арганізацыя свайго часу запрасіла на чарговы сход раённага дырэктара гаспадарчых млыноў, і прадставілі розныя камбінатарствы млынароў, якія недаважвалі муку. Пасля гэтага сходу пачалі сумленна працаваць млынары, бо адчулі кантроль з боку партыйнай арганізацыі.

Занядбанай справай у нас з'яўляецца існаванне крамавых камітэтаў. Там, дзе ёсць крама, павінен быць і камітэт, яго старшыня і сакратар, павінны адбывацца сходы, на якіх абмяркоўвалася б якасць працы прадаўца, забеспячэнне крамы патрэбнымі для сялян матэрыяламі. Але такія камітэты амаль нідзе не існуюць. І ў грамадзе Юшкаў Груд гэта справа «ляжала». Некаторыя прадаўцы не кіраваліся патрэбамі сялян, але прывозілі тое ў крамы, што вымагала менш працы і клопатаў. Напрыклад, цвікоў, ланцугоў не прывозілі некаторыя прадаўцы са складу толькі таму, што яны цяжкія і можна імі пабрудзіць рукі. Зусім стала інакш, калі КГ і партыйныя арганізацыі сталі цікавіцца працай крамовых камітэтаў. У крамах з'явіліся спіскі пайшчыкаў, пачалі ўводзіцца лісты датаварвання крам. Грамадскі камітэт партыі звярнуў увагу ГС-а ў Міхалове на тое, што ён ніколі не паклапаціўся арганізаваць нарады старшынь і сакратароў камітэтаў, не расказаў аб іх правах і абавязках. А на гэта ў ГС-е ёсць грошы. У мінулым годзе было на гэта прызначана 12 тысяч злотых.

Справа раздзелу ГС-амі канцэнтраваных кармоў (вотруб'я і розных мяшанак). Дзяржава шмат прызначае сялянам па зніжаных цэнах гэтых канцэнтратаў. Але не заўсёды яны даходзяць да сялян. Рознымі спосабамі перахопліваюць іх спекулянты і камбінатары. Гэтак было і ў Міхалове. Вотруб'е і мяшанкі не раздзяляліся на паасобныя грамады (а ёсць іх толькі чатыры). Гэтыя кармы «з'ядала» Міхалова. Некаторыя камбінатары гэтага мястэчка па 28 штук свіней укармлівалі ў год за кошт сялян паасобных вёсак. Сёлета за мінулае паўгоддзе Міхалова атрымала 260 тон канцэнтраваных кармоў, а грамада Юшкаў Груд нічога не атрымала. Грамадскі камітэт партыі ў Юшкавым Грудзе запрасіў прэзэса ГС-у на сваё пасяджэнне і запытаў, чаму так робіцца? Ад гэтага часу вотруб'е і мяшанкі сталі раздзяляцца на паасобныя грамады.

Хвалюе сялян яшчэ адна справа. Пры скупе жывёлы класіфікатары часта крыўдзяць людзей, абніжаюць класы жывёлы. Гаспадар тут зусім бязрадны. Класіфікатараў ніхто не кантралюе.

Шмат з іх несумненнымі спосабамі набіваюць грашыма кішэні. Грамадскі камітэт партыі ў Юшкавым Грудзе бачыць гэта, але і ён у гэтым выпадку бязрадны.

Чаму б нашым гандлёвым уладам па-сур'ёзнаму не заняцца справай класіфікатараў? Вядома, нялёгкая справа, але вырашыць яе можна. Можна праверыць класы перад убоем жывёлы. Можна таксама пры дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі мець спецыялістаў, якія кантралявалі б пры скупе класіфікатараў.

**М. Х.**

# АСЕННІЯ РЭФЛЕКСІІ З-ПАД ДУБА ЯГАЙЛЫ

(Працяг са стар. 1)

«Мы настаўляемся на прыродазнаўчую турыстыку,» — кажуць. — Іменна такую, аднаднёвую. Прыехалі і паехалі. Не трэба дбаць тады пра ежу для турыстаў, пра начлег. Выгадна.

Такое становішча адбіваецца і на ўсёй Белавежы. Гэта заняпалая цяпер, шэрая мясціна. Усё глухая, хоць магла б кіпець жыццём. Адзін з важнейшых клопатаў летам — як дастаць хлеба. Больш нервовыя белавежанцы валяць громы на тых аднаднёвых турыстаў, што прыязджаюць, з'ядаюць усё і мясцовым не застаецца.

Старшыня Прэз. ГРН, такі закаранелы патрыёт Белавежы тав. Седун кажа, што Белавежы патрэбен Таварны дом. Колькі ж можна гандляваць у старых, спарахнелых крамах? За тыя грошы, якія ГС выдае на іх рамонт і на аплату за дзяржаву, можна было б збудаваць палавіну суперсучаснага Таварнага дома. Для праверкі, для пацвярджэння ці абвяржэння вышэй сказанага іду ў ГС. Тут мне лічаць. У Белавежы ёсць 15 пунктаў гандлю (па-нашаму, крамаў). Аж столькі — не думала. І ўсё ў такіх кучках.

У год ГС плаціць за карыстанне гэтымі кучкамі аж 69.200 зл. (у гэта ўваходзіць аплата для ГРН і прыватных уласнікаў). Я выказваю думку, што ПЗГС у Гайнаўцы тут хіба не зусім у парадку. Прыводжу думку тав. Седуна. Старшыня ГС у Белавежы грам. Трусевіч стараецца бараніць: ПЗГС заняты будовай крамаў на вёсцы, усё ж прыступім калісь да будовы такога Таварнага дома і ў Белавежы. А я трымаюся свайго: ПЗГС не ўлічвае спецыфікі Белавежы, не дбае пра Белавежу, як у забеспячэнні прадуктамі, так і пра інвестыцыі.

Гэты ПЗГС прыпомніў мне, што Белавежа — гэта вёска (у гарадах дзейнічае ПСС). Фактычна. Белавежа астаецца на правах вёскі. Ці будзе калі горадам? «Стараемся, — кажа тав. Седун. — Але гэта яшчэ віламі пісана па вадзе. Тым часам трактаванне Белавежы як вёскі дазваляе некаторым адказным спакойна глядзець на тое, што валіцца кіно, аптэка, што ў Белавежы стаяць развалiны дамоў (ГРН на камунальную гаспадарку мае ў год 5 тыс. зл.). Вазьмі ды пакамбінуй, каб і сена цэлае было і авечкі сытыя!

Тав. Седун паінфармаваў мяне, што парк атрымаў 22 мільёны на разбудову турыстычных прыспасабленняў. Нямала можна за гэта зрабіць. Але, па-мойму, галоўнае ў тым, каб умела Белавежу разрэкламаваць, каб заставіць яе шанаваць і любіць. А прыклад ў гэтым павінна даць павятовая Гайнаўка, і ў першую чаргу яе ўстановы. Немалаважная ж гэта рэч гайнаўскім гаспадарам мець на сваёй тэрыторыі ўласную Крыніцу ці Закапанэ.

Старэйшыя белавежанцы уздыхаюць: «Калісь Белавежа славілася. Цяпер яна — глухі куток» А нічога ж фактычна не змянілася. Тая самая пушча, тое самае багацце дрэў у парках, тое самае смольнае паветра, тыя самыя сімпатычныя назвы вуліц: (Стачок, Трапінка, Застава, Падаляны). Заставу, праўда, перайменавалі, але неяк не прымаецца новая назва.

І так шумяць дубы ў пушчы, шумяць просьбай: стварыце магчымасць росту Белавежы...

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

# АТАВА



Загатоўка кармоў на зіму для жывёлы — вялікая справа. Сёлета мокры год. Не ўсюды ўрадзіла збожжа і бульба. За тое добра вырасла сена. Аляксандр Кас'янюк з Мікуліч, Сямяціцкага павета (на здымку) сушыць атаву — другі пакос сена, якое добра сёлета ўрадзіла.

**М. Х.**

# Ці толькі ў Кузаве?

Прышлі доўгія вечары, і з кожным днём становяцца яшчэ даўжэйшымі. Чым іх запоўніць? Заглянем, на пачатку, у Кузава. Вёска немалая. Каля 100 гаспадароў. Ёсць тут, пабудаваная грамадскім чынам, святліца. Ёсць таксама крама.

У кожную нядзелю ці свята гэтая крама набітая юнакамі. Тут збіраецца амаль усё маладое пакаленне вёскі. Заказваюць «Вэрмут», «Пулмоцнэ», бяруць шклянкі і ідуць на «зялёную траўку». «Падмацаваўшыся», накіроўваюцца да дзяўчат. Як жа прыгожа патрапяць тады яны спяваць!

— Ці хлопцы заўсёды прыходзяць да вас у такім вясёлым настроі? — пытаюся ў дзяўчат.

— Яны вясёлыя, як вып'юць шклянку «Вэрмуту», — усміхаюцца тыя.

— А што маем рабіць? — кажуць хлопцы.

— Маеце прыгожую святліцу.

— І што нам з гэтага. Мы да яе амаль не маем доступу. Старэйшыя маюць ключы, яны гаспадараць.

Гэта дрэнная справа. А ці моладзь не магла б узяць святліцу ў сваю апеку. Ёсць жа ў Кузаве гурток ЗМВ, ЛьПЖ. У іх згуртаваны амаль усе хлопцы і дзяўчаты з гэтай вёскі. Ці ж не маглі б яны арганізаваць ў святліцы сапраўдную культурную працу? Аб непрыемнай атмасферы паміж моладдзю і старэйшымі жыхарамі вёскі гаварылі не раз у павятовым праўленні ЗМВ і ў аддзеле культуры.

— Чаго мы можам спадзявацца ад сваіх павятовых улад, — гавораць чле-

(Працяг на стар. 7)

шыся, яны ўбачылі перад сабою двух з белымі павязкамі на руках. Адзін быў нізенькі, чарнявы, са змучаным тварам, на якім ружавела шырокая смуга нядаўняй раны. Яна ішла ад правай скроні праз усю шчаку.

Глянуўшы на другога партызанскага парламенцёра, Генрых ледзь стрымаў рух здзіўлення: гэты нізенькі лоб і празмерна шырокія, кашлатыя бровы... Не, ён не памыляецца, гэта ж той самы італьянец, якога ён бачыў у пакоі Мілера на другі дзень свайго прыезду ў Кастэль ля Фантэ.

«Правакатар!» Генрых спытаў:

— Маем перад сабой парламенцёраў атрада гарыбальдыйцаў?

— Гэта мы і ёсць! — ўсміхнуўся партызан са шрамам.

— Вы, вядома, ведаеце, у якой справе мы прыбылі сюды? — спытаў Генрых.

— Здагадваемся.

— Мы згодны абмяняцца заложнікамі. Абяцаем адпусціць такую ж колькасць затрыманых, якую адпусціце вы, — сказаў Генрых суха, хоць яму так хацелася падыйсці да гэтага чалавека са шрамам, які трымаў сябе так упэўнена, і крыкнуць яму: «Сцеражыся! Вораг побач цябе!»

— Выходзіць, адзін на адзін? — нарэшце адазваўся партызан з кашлатымі брывамі.

— Так!

237

Чалавек са шрамам толькі свіснуў.

— Тады вы прыбылі сюды заўчасна: давядзецца пачакаць пакуль мы наловім вашых афіцэраў столькі, колькі ваш палкоўнік узяў за адзін дзень у Палерма.

— Я вымушаны папярэдзіць: калі вы не згодзіцеся на нашы ўмовы, некалькі населеных пунктаў будзе спалена, жыхары...

Генрых не дакончыў. Чалавек са шрамам збялеў.

— Вы што, прыйшлі сюды ўмовы дыктаваць? Калі так, размовы між намі лішнія!

— Якія будуць тады вашыя ўмовы?

— Наша ўмова адна: мы вам аддаем вашых, а вы — нашых.

— Умовы, якія вы высунулі, не можам прыняць, не параіўшыся з нашым камандваннем. Але калі камандванне на іх згодзіцца, які будзе парадак абмена заложнікамі?

— А такі: заўтра раніцай вы на машынах падвозіце сваіх заложнікаў сюды. А мы сюды ж даставім вам нашых. Вось і ўсё!

Генерал Еверс, прадстаўнік камандвання паўночнай групы і Мілер з вялікай нецярплівасцю чакалі звароту Гольдрынга. Калі ён прыбыў здаровы і непашкоджаны, усе аблегчана ўздыхнулі.

— Дакладвайце, барон, — тарапіў генерал.

Генрых расказаў пра сустрэчу з партызанскімі парламенцёрамі і пра ўмовы, якія тыя высунулі.

238

— Давядзецца згадзіцца! — уздыхнуў генерал.

На другі дзень ва ўмоўленым месцы наступіў абмен заложнікамі. Калі партызан са шрамам пералічыў арыштаваных Функам жыхароў Палерма, Генрых спытаў:

— Усё ў парадку?

— Так, усе пяцьдзесят чатыры, па спіску... Выходзіць, з прымусу і вы можаце дзейнічаць сумленна.

Генрых зрабіў выгляд, што не разумее значэння кінутай рэплікі.

— Дык мы можам забіраць сваіх?

— Цяпер можаце.

Узяўшы насілкі з графам, Генрых і Курт пачалі асцярожна спускацца ўніз. Калі яны адыйшлі ад скалы метраў на сто, ззаду пачуўся свіст. Потым другі, трэці. За хвіліну свісталі, смяяліся, выгуквалі ўжо ўсе былыя заложнікі Функа.

Толькі цяпер Штэнгель астаткова прыйшоў да прытомнасці. Падбегшы да Генрыха, ён выхапіў з яго рук адзін бок насілак.

— Функ, ставайце спераду і бярыце разам з Куртам! — крыкнуў ён і, звярнуўшыся да Генрыха, з нечаканай цеплынёй ў голасе сказаў:

— Вы другі раз выратавалі мне жыццё, барон, таму я не хачу, каб вы налажылі сваім. Чуеце, як яны лютуюць?

(Працяг за тыдзень)

239

# Трыбуна чытачоў

## Мая прапанова

Дарагія Сябры! Кожны з нас любіць чытаць сваю газету, кожны нецярпліва чакае, калі яна прыдзе, усхвалявана гартае старонкі яе, шукае свайго прозвішча, глядзіць, што ў ёй новага. Мы зжыліся з «Нівай». Яна заўсёды ў нашых думках. Бо калі мы глядзім на бясконцую даль даспяваючага жыта, бо калі мы глядзім на далікатны пух узышоўшых раслін, нам на думку прыходзіць ніва, ніва нашай будучыні, ніва нашай мары. Прышоўшы дамоў, каб пасля цяжкай працы адпачыць, мы бяром яе ў рукі як нешта вельмі дарагое. Калі я чытаю «Ніву», мне здаецца, што гутару з нейкім добра знаёмым, які ў кожную хвіліну параіць мне, як жыць, каб труд мой не пайшоў на марна; мне здаецца, што я сустракаю ветлівых сяброў і расказваю ім свае радасці і сум. Аднак хоць я яшчэ і малады чытач, прыкмячаю, што не ўсё ў нас так, як трэба. Мы часта любім скідаць віну на свайго брата, каб дапячы яму, каб асмяяць яго. А ідэалаў няма. Кожны з нас часам скаўзнецца з дарогі, заблудзіцца. І як весела на душы, калі знойдзецца чалавек, працягне руку, пакажа куды ісці. Як гэта прыемна, калі ў цяжкіх хвілінах жыцця знойдзецца хтосьці, хто пацешыць нас хоць толькі словамі «не сумуй, браток, не адзін ты». Часта любім вытыкаць людскія недамаганні. А ён такі, гэтакі. Ён п'е, ці лупіць жонку. Але ніколі мы не задавалі сабе працы спытаць, чаму ён такі, чаму ён п'е. Можа ў яго нешта не ладзіцца, можа мае на сэрцы нейкі сум і не мае сябра, які яму параіў бы добра. Ніхто без прычыны не п'е атруты і ніхто не хоча быць сам сабе ворагам. Можа яго толькі тое губіць, што ён не мае нікога блізкага. І вось таму я хацеў бы параіцца з Вамі, сябры, ці не трэба ў нашай дарагой газеце ўвесці змен, якія зрабілі б яе нам яшчэ больш мілейшаю. Па-мойму «Трыбуна чытачоў» не зусім спаўняе сваё заданне. Бо мы самі добра ведаем, што ў Ляўкове ёсць школа, дамы пакрыты чарапіцай, ёсць бібліятэка ў Ласінцы, сады растуць, што недзе ёсць кавалі (і то аж два), ёсць моладзь, якая добра працуе. Але не ведаем, чаму яна добра працуе, да чаго яна імкнецца, што з'яўляецца галоўным маторам яе дзеяння. Можа любоў да бацькаўшчыны, бацькаўшчыны, у якой яна вырасла і выхавалася, мо' барацьба за спакой на свеце, а мо' толькі жаданне славы? Часта, апісваючы прадметы, не бачым за імі людзей. Не бачым іх адносін да сваіх блізкіх, не бачым, чым яны жывуць: радасцю, ці сумам. Вельмі ж добрая рубрыка «Людзі, сярод якіх мы жывем», бо там кожны чалавек знойдзе для сябе многа добрага. І я прапанаваў бы, дарагія сябры, каб «Трыбуну чытачоў» замяніць на «Што аб гэтым думаеце». Мы ў гэтай рубрыцы вялі б дыскусію аб нашых радасцях, недахопах, аб нашым вопыце, раілі б адзін другому, як лепш жыць. Думаю, што гэта многа дало б добрага ў нашым жыцці, зблізіла б нас яшчэ мацней. А мо' вы, дарагія сябры, маеце цікавейшыя прапановы?

**К. КАЛІНА**



Хто не любіць капусты? Напэўна, такіх няма людзей. Кожная сям'я на вёсцы і не толькі на вёсцы імкнецца закісліць кадушку капусты на зіму. Шаткаваная кіслая капуста вельмі смачная і вельмі карысная для арганізма, а звараная з мясам таксама не горшая.

На здымку Вольга Хмялеўская з Паўднёвага Вострава (Сакольскі павет) вельмі задаволена, што добра урадзіла ў яе капуста.

Тэкст і фота М.С.

## Школьныя самадзейнікі

У нашай школе існуе мастацкая самадзейнасць. Школьныя самадзейнікі не толькі выступаюць у сваёй вёсцы, але наведваюць і суседнія. Апошнім часам, напрыклад, галадоўская школа выступіла ў Крывой, дзе юныя самадзейнікі паставілі п'есу і дэкламавалі вершы. Прысутныя былі вельмі задаволены выступленнем школьнікаў з Галадоў.

**Сцёпа Грыгарук**
Галады, Бельскі павет.

## Наш сельгасгуртох

Яшчэ зусім нядаўна ў нашай вёсцы ўсе сеялі з каробкі, жалі сярпом, малацілі цэпам. Не ведалі таксама карысці, якую дае сілас. Адносіны да гэтай працы змяніў сельгасгурток, які арганізаваўся ў нас два гады таму назад. Следам за членамі гуртка і іншыя гаспадары пачалі прымяняць у працы машыны. Цяпер большасць гаспадароў Ляўкова сее толькі сеўнікамі.

У вёсцы члены гуртка вырашылі пабудаваць некалькі сіласных ямаў. За пабудову сіласных ямаў узяліся таксама і іншыя гаспадары, не згуртаваныя ў гуртку. Добрую ролю ў гэтай справе адыграў сельгасгурток з Тарнопаля, на вопыце якога гаспадары пераканаліся аб вялікай карысці сіласу ў кармленні жывёлы.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## Уступаем у новае жыццё

Вёска Курашава з кожным месяцам мяняе свой выгляд. У наш быт увайшло ўжо электрычнае святло, ходзім мы па цэментавым ходніку, побач яго пасадзілі дрэўцы. Цяпер зноў нашы вочы цешыць новаадкрытая грамадская крама. У дзень адкрыцця крамы прыбылі прадстаўнікі з павета і выступіў наш хор пад кіраўніцтвам настаўніка В. Шведа.

**Ян Масайло**
Курашава,
Гайнаўскі павет.

## ВОН!

(Працяг са стар. 3)

У калідоры чуўся крык.

— Возьны! Вынесці!... Хутка!

Прыбіральшчык ухапіўся за запаскуджанае крэсла і пацягнуў на склад.

* ⁂ *

Піліп Кізевіч, старшыня беластоцкай управы ТБШ, Язэп Грэсь і яшчэ некалькі актывістаў склалі візіт Высакінскаму. Патрэбны быў дазвол на правядзенне сходаў тэбэшоўскіх гурткоў і наладжанне некалькіх спектакляў мастацкай самадзейнасці.

— О, зноў беларусы, — пан начальнік, здаецца, у добрым настроі. — У чым справа?

— Наогул, не так зноў важная... — Піліп гаворыць у тон. — З ёю маглі б справіцца камісарыяты паліцыі, але, на жаль, вымушаны турбаваць вас асабіста, пане.

— Наракаеце, што не давяраем вам, маеце перашкоды ў дзейнасці? Бачыце, трэба быць лаяльным у адносінах да дзяржавы — мы хочам супрацоўнічаць з вамі. Заўсёды аб гэтым кажу. Дапамажыце нам, укажыце камуністаў. Ачысцім ТБШ ад іх — тых маскоўскіх агентаў. Створым тады магчымасці да лепшай і шырэйшай працы...

«Старая песенька», — Кізевіч цярпліва слухаў.

— ...Дзе не ткніся, усюды трапіш на камуністычную дыверсію.

Піліп зразумеў гэты не зусім тонкі начальніцкі прыём.

— Хай пан начальнік не расказвае нам баек! — перапыніў яго са злосцю. Пытаем, ясна: дазваляеце ці не дазваляеце правесці сходкі?

Грэсь штурхае пад сталом нагою.

Высакінскі дазволіў. На развітанне не падаў рукі.

**Сакрат ЯНОВІЧ**

ПАРАДЫ НАШАГА ПРАЎНІКА

## АЛІМЕНТЫ ПАСЛЯ СМЕРЦІ БАЦЬКІ

**Пытанне:** Гр. Н. звярнулася ў суд у справе сцвярджэння бацькоўства і аліментаў. У часе працэсу бацька памёр. Суд спыніў судавядзенне. Ці дзіця мае права да аліментаў?

**Адказ:** Каб справа аб аліментах магла быць у гэткім выпадку вырашана, трэба звярнуцца да павятовага суда, які з'яўляецца апякунчай уладай, з просьбай аб вызначэнні куратара, які бярэ дзіця пад сваю апеку. Суду, які вёў справу аб аліментах, трэба падаць прозвішчы і адрасы наследнікаў памёршага.

Пасля гэтага суд вырашыць справу. Суд можа пры гэтым, устанаўляючы бацькоўства, прысудзіць аліменты толькі за час да смерці бацькі. Аліменты гэтыя выплачваюцца са спадчыны. Апрача гэтага, дзіця атрымлівае спадчыну нароўні з іншымі дзецьмі памёршага.

**УВАГА: праўнік прыймае наведвальнікаў у рэдакцыі кожны панядзелак ад 11 да 12 гадзіны. Парады бясплатныя.**

## Ці толькі у Кузаве?

(Працяг са стар. 5)

ны гуртка ЗМВ, — калі ад 1958 г. прадстаўнік з павету быў толькі два ці тры разы.

Моладзь азіраецца на дапамогу павятовых улад, а ў павеце кажуць: «Будзеце добра працаваць — дапаможам.»

Члены ЗМВ так і сядзяць, нічога не рабіўшы. Не плацілі членскіх складчын ужо за некалькі год. Арганізацыя існуе толькі на паперы.

Такія справы не толькі ў Кузаве. У суседніх вёсках, Ставішчах і Дабрыводах, таксама святліца чакае на моладзь. Хто мае быць ініцыятарам культурных пачынанняў у такіх вёсках: старэйшыя, што маюць ключы ад святліцы, ці моладзь? А моладзь тут здольная. Не раз бачыў у іх выкананні п'есы, танцы, слухаў песні. Не раз пісаў аб гэтым у «Ніве». Чаму цяпер таго няма? Змянілася вёска, людзі? Крыху так. Адышлі старэйшыя, іх месцы занялі маладыя, якім нехапае вопыту і аўтарытэту. Але гэтыя якасці не прыходзяць без працы. Падумайце над гэтым, маладыя. Мо' тады зменяцца да вас адносіны з боку старэйшых і яны самі перададуць у вашы рукі ключы ад святліцы.

**Мацейка**

## Цырк „ВІСЛА" у Беластоку

25.X. у 19 гадз. на пляцы пры вул. Маніфесту Ліпцовага распачне выступаць з багатай і цікавай праграмай Цырк «ВІСЛА». Артысты — з Польшчы, Чэхаславакіі і Югаславіі.

## І кончылася гора

Засаднічая школа механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове знаходзіцца ў невялікім будынку. Цесна тут і нявыгадна. Вучні сядзяць па трох у адной лаўцы. Настаўнікам таксама цяжка працаваць у такіх умовах. Але аб гэтым можна ўжо толькі ўспамінаць. У канцы гэтага месяца пяройдзем у новыя муры. Там напэўна не будзе цесна, бо будынак велізарны.

**Мікалай Ялінік**
Міхалова

## Да ведама чытачоў і карэспандэнтаў

**Паведамляем, што ад 15 кастрычніка гэтага года рэдакцыя перайшла на сямігадзінны дзень працы, і ў сувязі з гэтым змяніўся распарадак прыёму наведвальнікаў.**

**Ад 15 кастрычніка г.г. рэдакцыя пачынае працу ў 8 гадзін і канчае ў 15. У гэтых гадзінах і просім уладжваць у нас усе свае справы.**

## Вёска майстроў

У Навінах шмат майстроў. Гэта пераважна пчалаводы, садаводы, шаўцы, краўцы, кавалі і муляры. Сярод гэтых спецыялістаў вялікую славу здабывае пчалавод Саша Банькоўскі. Ён мае звыш 40 пнёў пчол. Яны прыносяць яму немалую карысць.

**Зіна Ялінік**
Навіны, Гайнаўскі павет.





**ПРАГРАМА**
**на 22 — 28.X.1962 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавєжа**
„Uskrzydleni" (NRD), 23—25. „Żebro Adama" (USA), 26—28.

**Кляшчэлі**
„Stracone złudzenie" (angl.), 23—25. „Tu radio Gliwice" (NRD), 26—28.

**Навасады**
„Rzeczywistość" (polski), 26—28.

**Нараў**
„Alba Regia" (węgierski), 24—28.

**Нараўка**
„Słońce wschodzi nad Bengalem" (pakistański), 24—28.

**Чаромуха**
„Mali muszkieterowie" (radz.), 23—25. „Tajemnica starej kopalni" (angl.), 26—28.

**Чыжы**
„Taka miłość" (czeski), 24—28.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„100 kilometrów" (włoski), 24—28.

**Бранск**
„Mały marzyciel" (radz.), 23—25.
„Komedianty" (polski), 26—28.

**Гродзіск**
„Skok o świcie" (radz.), 27—28.

**Орля**
„Drzwi stoją otworem" (jugosłowiański), 24—28.

**Райск**
„Tu radio Gliwice" (NRD), 24—28.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Pragnienie" (węgierski), 23—25. „Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 26—28.

**Міхалова**
„Wszędzie żyją ludzie" (czeski), 23—25. „Tragiczny zamach" (jugosł.), 26—28.

**Супрасль**
„Letni sen" (szwedzki), 23—25. „Sprawcy nieznani" (włoski), 26—28.

**Чорна Беластоцкая**
„Siedmiu złodziei" (włoski), 23—25. „Komedianty" (polski), 26—28.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Aby kwitło życie" (polski), 23—25. „Uśmiech nocy" (szwedzki), 26—28.

**Мілейчыцы**
„Letni sen" (szwedzki), 23—25. „Ukryte skarby" (czeski), 26—28.

**Нурэц**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 23—25. „Koniec drogi" (bułgarski), 26—28.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Profesor Mamlock" (NRD); 23—25. „Majowe gwiazdy" (czeski), 26—28.

**Сухаволя**
„Przeciwnicy" (węgierski), 23—25. „Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), 26—28.

**Шудзялава**
„Zuzanna i chłopcy" (polski), 24—28.

**Янаў**
„Dzień powszedni" (NRD), 23—25. „Długa noc 1943" (włoski), 26—28

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Statek z dynamitem" (rumuński), 26—27.

**Новы Двор**
„Salwa o świcie" (radz.), 27—28.

**Ружаны Сток**
„Gorsza miłość" (węgierski), 27—28.

Ніва

**Adres redakcji:** Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

**Telefony:** red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.

**Warunki prenumeraty:** miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $, w Europie 5 $ — w USA.

Nakład 5000. Błtk F-3

